ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

НА БАРАЦЬБУ З ПРАГУЛАМІ І ЦЯКУЧАСЬЦЮ!

ЛІСТАПАД

№ 12

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1932

Літпраўка *А. Зімонка*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Здана ў друкарню 23/XI—32 г.
Падпісана да друку 28/XI—32 г.
Набрана на лінатыпе № 6
Адк. кор. друк. *Мацкевіч*

Заказ № 2888. 10.000 экз. (1 арк.) Уп. Галоўлітбелу №а 1286.

Друкарня імя Сталіна.

## НА БАРАЦЬБУ З ПРАГУЛАМІ І ЦЯКУЧАСЬЦЮ!

ДЛЯ ЗАЎВАГ

Мы ўступілі ў шаснаццаты год Кастрычніцкай рэволюцыі. За пятнаццаць год існаваньня дыктатуры пролетарыяту мы дабіліся вялізарных посьпехаў на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. На ўсім неабсяжным прасторы СССР—ад Менску да Ўладывастоку і ад Мурманску да Батуму—кіпіць напружаная работа, ідзе нябывалая будоўля, якая зьмяняе твар савецкай краіны, узьнімае яе экономіку на недасяжную для большасьці буржуазных краін вышыню. Некалі адсталая, забітая Расія ператорана з краіны аграрнай у перадавую **індустрыяльную** краіну. Наша прамысловасьць разгортваецца бурнымі тэмпамі, рэзка павышаючы сваю адносную вагу ва ўсёй продукцыі народнай гаспадаркі.

Намечаны першай пяцігодкай плян прамысловай продукцыі выканан у асноўным не за пяць, а за **чатыры** гады. Ужо сёньня наша прамысловасьць дае **ў тры з паловай разы** больш продукцыі, чым прамысловасьць старой Расіі ў годы яе росквіту. Паводле пляну першай пяцігодкі было намечана пусьціць 712 новых прадпрыемстваў. Фактычна за гэтыя гады мы пусьцілі 769 прадпрыемстваў. Многія з іх маюць сабе роўных у найбольш перадавых капіталістычных краінах. Магнітабуд, Кузьнецкбуд, Сталінградзкі, Харкаўскі і Чалябінскі трактарныя заводы, аўтагігант гораду Горкі, Маскоўскі аўтазавод імя Сталіна (былы АМО), «Шарыкападшыпнік», Дняпроўскі мэталюргічны завод, Луганскі завод магутнага паравозабудаўніцтва, Бобрыкаўскі хімкамбінат, нарэшце Днепрадэс—магутнасьцю ў 810 тыс. конскіх сіл—гордасьць савецкага будаўніцтва—вось сьведкі нашых вялізарных перамог.

**Савецкую Беларусь**—плоць ад плоці Савецкага Саюзу, дзякуючы правільнай нацыянальнай політыцы партыі, таксама нельга пазнаць.

Некалі пустыя прасторы цяпер пакрыліся шматлікімі прамысловымі і сельскагаспадарчымі прадпрыемствамі. За гады першай пяцігодкі пабудавана каля 20 буйных фабрык і заводаў (Бабруйскі і Гомельскі дрэваапрацоўчыя комбінаты, Гомсельмаш, Белдрэс, швэйная фабрыка «Сьцяг індустрыялізацыі», панчошна-трыкотажная фабрыка імя Клары Цэткін, Аршанскі мясакомбінат, запалкавая фабрыка «Пралетарская Перамога» і рад іншых). Дзесяткі прадпрыемстваў карэнным чынам перабудаваны і зусім не падобны да тых майстэрань, якімі яны фактычна былі 5-6 год таму назад. Першая пяцігодка па БССР выконваецца ў чатыры гады. Некаторыя галіны прамысловасьці выканалі пяцігодку ў значна больш кароткі тэрмін. Швэйная, паліграфічная, мэталяапрацоўчая, дрэваапрацоўчая, запалкавая, скураная—выканалі сваю пяцігодку за два з паловай—тры гады. Выпуск прамысловай прадукцыі па БССР у 1932 г. вырас у параўнаньні з 1926-27 годам у чатыры з паловай разы. Колькасьць рабочых у саюзнай і рэспубліканскай

ДЛЯ ЗАЎВАГ

прамысловасьці па БССР павялічылася за гэты час з 26.000 да 94.000.

Намаганьнямі мільёнаў рабочых і сялян, ударнікаў соцыялістычнай індустрыі і колгасных палёў, працоўным геpоізмам мас—пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і яе ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным—мы дабіліся нячуваных тэмпаў разьвіцьця. Гэтыя посьпехі зьяўляюцца яшчэ больш вялікімі на фоне ўсё больш паглыбленага крызісу на тым баку савецкай граніцы. У буржуазных краінах спыняюцца фабрыкі і заводы, гаснуць домны. Колькасьць беспрацоўных дасягае 43 мільёнаў чалавек, а разам з сем'ямі армія пролетараў, асуджаных на голад, жабрацтва, выраджэньне, дасягае 120—140 млн. чалавек. Амаль столькі-ж, колькі ў СССР налічваецца насельніцтва! Капіталістычны сьвет ня ў сілах скарыстаць створаных пролетарыятам багацьцяў і ён задыхаецца ад лішку тавараў, у той час як мільёны пролетараў паміраюць з голаду.

У нас-жа, у Савецкім Саюзе, рашаючыя посьпехі цяжкай індустрыі і соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі забясьпечва-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

юць шпаркія тэмпы разгортваньня лёгкай прамысловасьці, разьвіцьця вырабу прадметаў шырокага спажываньня. Узросшыя патрэбнасьці рабочага снабжэньня непасрэдным чынам зьвязаны з бесьперапынным уздымам дабрабыту працоўных і ростам пакупальнага попыту, дзякуючы посьпехам індустрыялізацыі СССР. Сярэдняя гадавая зарплата на аднаго працоўнага ўзрасла з 800 руб. у 1929 г. да 1.300 руб. у 1932 годзе. Апрача таго, фонд **соцыялізаванай зарплаты** дасягае ў бягучым годзе 4,3 мільярда руб. і ў асноўным расходуецца на палепшаньне аховы здароўя і жыльлёвабытавых умоў працоўных. У СССР поўнасьцю ліквідавана беспрацоўе, у выніку чаго ў вытворчасьць уцягнута ў значных разьмерах жаночая праца і павялічыўся паказальнік колькасьці працуючых членаў рабочай сям'і (1,53 замест 1,23 у 1928 годзе). Уцягненьню жаночае працы ў вытворчасьць спрыяў рост ясьляў, дашкольных устаноў, рост грамадзкага харчаваньня Так, у 1917 годзе колькасьць дзяцей, ахопленых ясьлямі ў гарадох СССР, складала 4.920, у 1932 г.—

879.700, у сельскіх мясцовасьцях яськямі было ахоплена ў 1917 г. 35.000 дзяцей, а ў 1932 г.—6.340.000. Колькасьць дзяцей у дашкольных установах у 1924-25 г. складала 60.200, у 1931-32 г.—2.755.000. Грамадзкім харчаваньнем у 1929 г было ахоплена ўсяго 730.300 чалавек, цяпер—11.500.000 чал.

Праўда, мы далёка не зрабілі яшчэ ўсяго таго, чаго можна і трэба дабіцца ў інтарэсах далейшага палепшаньня дабрабыту цяперашняга рабочага. **«Цяперашні рабочы, наш савецкі рабочы хоча жыць з пакрыцьцём усіх сваіх матэрыяльных і культурных патрэбнасьцяй і ў сэнсе харчовага снабжэньня, і ў сэнсе жыльля, і ў сэнсе забясьпечаньня культурных і ўсякіх іншых патрэбнасьцяй» (Сталін).**

Каб хутчэй узьняць дабрабыт рабочага яшчэ на большую вышыню, каб забясьпечыць патрэбнае разьвіцьцё тых галін прамысловасьці, якія непасрэдна працуюць на шырокі рынак, неабходна ў першую чаргу поўнасьцю выканаць вызначаныя пляны выпуску продукцыі як цяжкай, так і лёгкай прамысловасьці.

Між тым, чацьверты год пяцігодкі, які зьяўляецца адначасова базай для разгортваньня выкананьня другога пяцігадовага пляну—пляну пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва—характарызуецца невыкананьнем кольхасных і якасных паказальнікаў у радзе галін прамысловасьці, у тым ліку прамысловасьці БССР.

Мэталяапрацоўчая прамысловасьць БССР выканала дзесяцімесячную програму толькі на 63,6 проц., абутковая—на 82,1, хімічная—на 75,2, шкляная—на 81,9, швэйная—на 76,5, тэкстыльная—на 92,6, запалкавая—на 84,6, паліграфічная — на 92,7, фанэрная — на 97,2, тарфяная—на 57,7 (па Наркамцяжпраму) і на 75,4 (па Наркамлёгпраму), будаб'яднаньне—на 26,3 і толькі гарбарная прамысловасьць дала 106,8 проц. выкананьня пляну.

**Тысячы станкоў і машын недаданы нашым заводам і сельскай гаспадарцы, на мільёны рублёў прадметаў шырспажыву недадана гарадзкому і сельскаму спажыўцу.**

Дзе прычыны невыкананьня плянаў? Аднэй з асноўных прычын зьяўляецца нячуваны рост **прагу-**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**лаў па няўважлівых прычынах і цякучасьць рабочай сілы.** Прагулы па няўважлівых прычынах па цяжкой прамысловасьці БССР за 9 месяцаў 1932 году складаюць **звыш 30.000** чалавека-дзён, па лёгкай прамысловасьці БССР — **звыш 80.000.** Па радзе галін прамысловасьці 9 месяцаў 1932 году параўнальна з тым-жа пэрыодам 1931 году характарызуецца ростам прагулаў. Так, па заводах агульнага машынабудаўніцтва прагулы **павялічыліся** з 0,58 проц. да 1,19 проц., па МЭТИЗ'у—з 0,68 проц. да 0,80 проц., па цагельнях—з 2,98 да 4,11 проц., па кафэльных заводах—з 0,17 да 2,21 проц., па чарапічных заводах—з 2,55 проц. да 4,41 проц. На паасобных прадпрыемствах прагулы па няўважлівых прычынах дасягаюць вялізарных разьмераў. Так, па Крычаўскім фосфарытным заводзе прагулы за чатыры месяцы бягучага году склалі 8,91 проц., гэта значыць амаль 10 проц. рабочых штодзенна ня выходзіла на работу.

На заводзе **імя Варашылава** (Менск) за дзевяць месяцаў 1932 г. налічваецца 3.934 прагулы па ня-

№ 21597

ўважлівых прычынах, на гомельскім заводзе **«Пролетары»**—1.201, на **«Комунары»**—1.307, на Віцебскай **акулярнай** фабрыцы—2.556, на **Гомсельмашы**—3.837, на віцебскім **«Чырвоным мэталісьце»** — 5.514. Інакш кажучы, на «Чырвоным мэталісьце» ў працягу гэтых дзевяці месяцаў **30 чалавек** у сярэднім **штодзенна** ня выходзілі на работу па няўважлівых прычынах.

І калі на Сормаўскім паравозабудаўнічым гіганце прагулы штомесячна зьядаюць **адзін паравоз**, або 12 паравозаў у год, дык па БССР прагулы па няўважлівых прычынах зьядаюць **на сотні мільёнаў рублёў продукцыі**, якая вельмі неабходна нашай краіне, рабочаму спажыўцу. Тыя цяжкасьці, якія мы маем у сувязі з нячуваным ростам пакупальнага попыту на тавары шырспажыву, яшчэ больш **ускладняюцца** тым, што цяжкая і лёгкая прамысловасьць, асабліва апошняя, ня выконвае сваіх прамфінплянаў.

Апрача таго, **прагулы вельмі адмоўна адбіваюцца на матэрыяльным становішчы тых груп рабочых, якія па тэхналёгічным процэсе зьвязаны з прагульшчыкамі.** На-

ДЛЯ ЗАЎВАГ

прыклад, на гутах, дзе кожны станок яднае 7 чалавек, якія працуюць паводле строгага падзелу працы, нявыхад на работу аднаго-двух кваліфікаваных рабочых **зрывае рабочы дзень усіх іншых рабочых данага станка.** Рабочыя прымушаны ісьці дамоў і атрымліваюць толькі сярэдні заработак, у той час, калі будучы на зьдзельшчыне, атрымалі-б значна больш. На швэйных фабрыках, дзе работа ідзе па лентачнай сыстэме (жывы конвэер), нявыхад на работу некалькіх чалавек зьніжае продукцыйнасьць **усёй ленты,** якая налічвае шмат людзей. Так, на менскай фабрыцы **«Кастрычнік»** на другім агрэгаце 11 лістапада ня выйшлі на работу 8 чалавек, якія дэзэртавалі без папярэджаньня. У сувязі з гэтым цэлыя **тры дні** лента не магла наладзіць нормальную работу. **Гэтыя тры дні каштавалі соцыялістычнай прамысловасьці 200 польтаў, а 220 рабочых і работніц ленты недаатрымалі значную частку сваёй зарплаты.**

Такім чынам, у той час, як пераважная частка рабочай клясы з вялікім энтузіязмам і захапленьнем

будуе социялізм, **узмацняе абаро-наздольнасьць савецкай краіны,** вырашае адказьнейшыя задачы нашай будучыні, упарта змагаецца з усімі труднасьцямі—труднасьцямі нашага росту,—паасобныя групы адсталых рабочых—прагульшчыкі, гультаі—зрываюць работу нашых прадпрыемстваў, парушаюць правільны ход ударнай работы ў цэхах і брыгадах.

Ня меншым злом для нашай прамысловасьці зьяўляецца **цякучасьць рабочай сілы.** Адсутнасьць беспрацоўя ў нашай краіне, недахват кваліфікаваных і нават некваліфікаваных рабочых—ствараюць магчымасьць «пералёту» з аднаго прадпрыемства на другое. Няма амаль ні аднэй галіны прамысловасьці, якая была-б поўнасьцю ўкомплектавана рабочымі кадрамі. Некаторым галінам не хапае каля 20 проц. рабочых, прадугледжаных плянам. Укомплектаванасьць рабочай сілай па машынабудаўнічых прадпрыемствах складала ў кастрычніку 84,8 проц., па сельгасмашынабудаўніцтву—80,8 проц., па МЭТИЗ'ных прадпрыемствах — 79 проц., па хімічнай прамысло-

васьці—85,2 проц., па запалкавай—87 проц. і т. д. А прадпрыемствы—будматэрыялаў,—важнейшая галіна прамысловасьці, ад якой залежыць выкананьне плянаў капітальнага будаўніцтва,—былі забясьпечаны рабсілай толькі на **49,6 проц.** (у верасьні); горная-ж прамысловасьць на працягу дзевяці месяцаў—толькі на 12,1 проц. у сярэднім.

У такіх умовах цякучасьць рабочай сілы ўзмацняе недахват рабочых («лятуны» заўсёды знаходзяцца ў разьездах), зьніжае сярэдні ўзровень кваліфікацыі рабочых данага прадпрыемства, бо пакуль новы рабочы прывыкае да свайго месца, авалодвае тэхнікай новага станка, праходзіць значны час. Пасобныя-ж прадпрыемствы сапраўды зрабіліся прахадным дваром.

Так, на заводзе **імя Варашылава** (Менск) за 9 месяцаў прыбыло 346 рабочых, выбыла 707 рабочых, або 47,5 проц. агульнай колькасьці рабочых на заводзе.

На **гомельскім заводзе «Пралетары»** за той-жа час прыбыло 360 чалавек, звольнілася 629, або 61,5 проц.

ДЛЯ ЗАЎВАГ

На **Гомсельмашы** прыбыло 1.322 чалавек, звольнілася 1.408 або 90,8 проц.

На віцебскім заводзе **«Чырвоны мэталіст»** прыбыло 536 чал., звольнілася 501, або 55,2 проц.

На Віцебскай **акулярнай** фабрыцы—прыбыло 231 чал., выбыла 374, або 36,7 проц.

На добрускай фабрыцы **«Гэрой працы»** за 9 месяцаў прыбыло 1.204 рабочых, звольнілася 1.315.

На **Бярэзінскім комбінаце** прыбыло 950 чалавек, звольнілася 1.328. Аб разьмерах цякучасьці на гэтым комбінаце сьведчыць той факт, што за адзін дзень 10 кастрычніка прыбыло 99 рабочых, звольнілася 75.

На **панчошна-трыкотажным** комбінаце ў Віцебску за 9 месяцаў прыбыло 468 чалавек, звольнілася 629. На гуце **імя Домбаля** за трэці квартал прынята 132 чал., звольнілася 303, прычым 209 рабочых не вярнуліся пасьля рамонту заводу.

Зусім ясна, што **пролетарская дзяржава ня можа ў далейшым цярпець падобных агіднасьцяй.** Вялізарныя задачы, якія стаяць перад Савецкім Саюзам, патрабуюць

ДЛЯ ЗАЎВАГ

**ад усёй рабочай клясы,** ад усіх працоўных **жалезнай працдысцыпліны,** найбольш поўнага скарыстаньня кожнага рабочага дня, кожнай рабочай гадзіны. Мільёны энтузіястаў соцыялістычнай будоўлі на базе соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва змагаюцца за сваю будучыню, перамагаючы гіганцкія перашкоды, якія асталіся ў спадчыну ад старога ладу. **Прагульшчыкі і «лятуны» ўскладняюць гэтыя перашкоды, граюць на руку клясаваму ворагу.**

Вось што піша ЦО партыі **«Правда»** ў перадавой **«Мабілізуем масы на барацьбу з цякучасьцю і прагуламі»:**

«У барацьбе за самадысцыпліну рабочая кляса Савецкага Саюзу мае грандыёзныя посьпехі. Перадавы пролетары—энтузіяст соцыялістычнай вытворчасьці—цэнтральная фігура на нашых фабрыках і заводах. Ён ня ведае прагулаў па няўважлівых прычынах, ён адчувае сябе моцна зьвязаным з вытворчасьцю і ўсьведамляе адказнасьць за выкананьне прадпрыемствам прамфінпляну. Соцспаборніцтва, якое ахапіла мільёны пера-

давых рабочых ударнікаў, зрабіла для іх працу справай гонару, славы і гэройства...

Але склад рабочай клясы зьяўляецца неаднародным. Побач з кадравымі рабочымі на нашых прадпрыемствах ёсьць шмат моладзі, якая ня бачыла капіталістычнай фабрыкі і ня ведае ўціску капіталізму. Не адразу яны выварваюцца ў рабочым катле, не адразу далучаюцца да соцыялістычных форм працы. Нямала таксама на нашых прадпрыемствах такіх новых рабочых, былых дробных таваравытворцаў, беднякоў і сераднякоў сялян, якія гарой стаяць за савецкую ўладу, але **яшчэ не ўзьняліся да ўзроўню турбот аб кожнай тоне чыгуну, сталі, вугалю, хлеба.** Гэтых рабочых трэба выхаваць у духу турбот аб грамадзкай уласнасьці, бярэжлівых адносін да абсталяваньня, сыравіны і продуктаў. Яны павінны ўсьвядоміць рашаючае значэньне росту продукцыйнасьці працы для перамогі новага грамадзкага ладу».

Апроч таго, на нашых прадпрыемствах сустракаюцца злосныя прагульшчыкі, «лятуны» — профэ-



ДЛЯ ЗАЎВАГ

сыяналы, спэкулянты, якія выкарыстоўваюць работу на заводзе выключна для атрыманьня харчовых картак, спэцвопраткі і т. д. З імі трэба весьці бязьлітасную барацьбу, бо прагулы і лятунства—гэта адна з форм клясавай барацьбы.

А таму пастанова ЦВК і СНК СССР «Аб звальненьні за прагулы бяз уважлівых прычын» мае выключна вялікае значэньне для ўзьняцьця дысцыпліны працы на фабрыках, заводах і ва ўстановах. Пастанова ЦК і СНК аб расшырэньні функцый заводакіраўніцтваў у галіне забесьпячэньня рабочых і аб зьмяненьні картачнай сыстэмы накіравана на паляпшэньне арганізацыі рабочага снабжэньня і на ўстанаўленьне большай сувязі паміж снабжэньнем і інтарэсамі вытворчасьці.

ЗРК двухсот з лішнім буйнейшых фабрык і заводаў з агульнай колькасьцю рабочых больш 3-х мільёнаў ліквідуюцца і ўвесь іх апарат з магазынамі, таварамі і інвэнтаром перадаецца заводакіраўніцтвам. На дырэктароў ускладаецца абавязак непасрэдна арганізаваць снабжэньне рабочых харчовымі і

прамысловымі таварамі. На ўсіх астатніх прадпрыемствах Савецкага Саюзу ЗРК падначальваюцца заводакіраўніцтвам побач з падпарадкаваньнем агульным дырэктывам сыстэмы спажывецкай копэрацыі. Выдача наборных кніжак для працуючых і членаў іх сем'яў концэнтруецца ў руках адміністрацыі прадпрыемстваў. Наборныя кніжкі будуць іменныя і неадкладна анулююцца са звальненьнем рабочага ці служачага.

Ня трэба даказваць, якое вялікае значэньне будуць мець гэтыя пастановы для ўпарадкаваньня снабжэньня рабочых і працдысцыпліны. Да гэтага часу прагульшчык і «лятун» месяцамі атрымлівалі харчы і прамтавары так, як і працуючыя. Ажыцьцяўленьне новай сыстэмы снабжэньня на двух харкаўскіх прадпрыемствах выявіла больш 10.000 «мёртвых душ», якія толькі лічыліся ў сьпісах ЗРК, а сапраўды на заводах не працавалі. Вызваленьне прадпрыемства ад гэтых дармаедаў ня толькі ўпарадкавала сыстэму снабжэньня, але дало магчымасьць лепш забясьпечваць сапраўдных ударнікаў і адданых

**справе рабочае клясы рабочых за кошт экономіі лішкаў продуктаў.**

Няма нічога дзіўнага, што вышэйназваныя дзьве пастановы партыі і ўраду аб звальненьні за прагулы бяз уважлівых прычын і аб зьмяненьні сыстэмы снабжэньня рабочых сустрэты пераважнай большасьцю рабочае клясы **з вялікай задаволенасьцю.** На ўсіх прадпрыемствах рабочыя і работніцы на сваіх сходах і мітынгах аднадушна **ўхваляюць** гэтыя пастановы, патрабуючы **няўхільнага іх ажыцьцяўленьня.**

Рабочыя маскоўскіх, ленінградзкіх, харкаўскіх, беларускіх і іншых прадпрыемстваў у сваіх рэзолюцыях **вітаюць і падтрымліваюць пастановы ўраду** і бяруць на сябе абавязацельствы змагацца за соцыялістычныя адносіны да працы.

«Калі я прачытаў дэкрэт аб барацьбе з прагуламі, дык сказаў сам сабе: **Даўно пара!** Рабочы час зьяўляецца народнай уласнасьцю і той, хто растрачвае час, які належыць пролетарскай дзяржаве, зьяўляецца злачынцам перад Савецкім Саюзам». Гэтая думка наладчыка заводу «Шарыкападшыпнік» тав. **Жу-**

кава зьяўляецца думкай усіх перадавікоў рабочай клясы.

Вось што гаворыць беспартыйны рабочы заводу **імя Варашылава** тав. **Мытнік:**

— Таварышы, я лічу, што прагулы, гэта язва на целе соцыялістычнага прадпрыемства. Гэту язву трэба выпальваць! За пастанову, якую нам тут далажылі, трэба ўзяцца абедзьвюма рукамі і, звальняючы прагульшчыкаў з нашага заводу, трэба зрабіць так, каб яны нідзе не змаглі працаваць. Што датычыць мяне, то я буду правяраць, чаму мае таварышы па станку ня прыходзяць на работу...

Работніца 2-га агрэгату швэйнай фабрыкі **«Кастрычнік»** тав. **Чэрток** заявіла:

— Пастанова ўраду зьяўляецца важнейшым мерапрыемствам па ўмацаваньні працоўнай дысцыпліны. Ва ўмовах нашай фабрыкі, дзе ўведзена паточная сыстэма, прагулы **ня толькі б'юць па прамфінпляну, але і па зарплаце адданых справе рабочых, якія прымушаны рабіць прастоі з-за непадачы дэталяй па конвэеру.**

Рабочы закройнага цэху той-жа фабрыкі тав. **Ротштэйн** заявіў:

— Вітаю гэту пастанову таму, што яна не датычыць сапраўдных перадавых пролетарыяў. Хто такі прагульшчык? Гэта той, хто прышоў на фабрыку дзеля пайка.

Рабочыя заводу «Комунар» гавораць:

— Ёсьць такія злосныя прагульшчыкі, якія ў рабочы час замест таго, каб стаяць каля станка, стаяць у чарзе, а потым спэкулююць атрыманымі продуктамі. Раней мы іх каралі так: калі ён ударнік, дык зьнімалі са сьпіску ўдарнікаў, або заносілі на чорную дошку, а самае большае—выключалі з членаў саюзу. Але гэта не стымулявала ліквідацыі выпадкаў злосных прагулаў.

— Пастанова ўраду правільная. Злосных лятуноў і прагульшчыкаў, якія выкарыстоўваюць недахват рабочай сілы, трэба звальняць і высяляць з кватэры, бо ўсякі прагул тармозіць выкананьне вытворчых плянаў і вядзе да разлажэньня працдысцыпліны. Гэта ганебнае зьявішча нельга далей цярпець.

Рабочыя і работніцы абутковай фабрыкі **імя Кагановіча заяўляюць:**

— Зрыўшчыкам выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, зрыўшчыкам выкананьня прамфінпляну і пляну выпуску продукцыі шырспажыву (чым тармозіцца сустрэчны гандаль прамтаварамі) не павінна быць месца на нашай фабрыцы. Мы прымем самыя рашучыя захады і павядзем бязьлітасную барацьбу з прагульшчыкамі.

Перадавыя рабочыя не абмяжоўваюцца аднымі заявамі і рэзолюцыямі. Сьледуючы слаўным традыцыям рабочай клясы Савецкага Саюзу, якая на кожную новую труднасьць адказвае **конкрэтнымі справамі,** рад фабрык і заводаў прымае на сябе абавязацельствы па ўзьняцьцю продукцыйнасьці працы, ліквідацыі браку, выкананьні пляна і т. д.

Рабочыя сталя-дротавага цэху заводу **«Серп і Молат»** узялі на сябе абавязацельства **ўзьняць продукцыйнасьць працы, ліквідаваць брак.** Групорг Самадураў давёў выпуск дроту першага гатунку да 98,3 проц.

**Дзесяць лепшых рабочых і работніц трыкатажнай фабрыкі «Чырвоны сьцяг», пры абгаварэньні па-**

**становы ўраду, падалі заявы аб уступленьні ў партыю.**

Дэлегаткі **менскай абутковай фабрыкі** ўзялі на сябе абавязацельствы не рабіць ні аднаго прагулу, выканаць прамфінплян, **праводзіць растлумачальную працу сярод работніц, якія спазьняюцца на работу,** выяўляць злосных прагульшчыкаў па цэхах.

Брыгады кашалёчнага цэху фабрыкі **«Ўсход»** заключылі сацдагавары, паводле якіх яны абавязваюцца ліквідаваць прагулы, выяўляць і выкрываць прагульшчыкаў і т. д.

У гэтых конкрэтных абавязацельствах ударнікаў—лепшае адлюстраваньне таго, як рабочая кляса сустрэла новы дэкрэт аб барацьбе з прагуламі. Гэтыя абавязацельствы маюць вялікае політычнае значэньне і гавораць аб тым, што з прагуламі і «лятунствам», як і з іншымі труднасьцямі, якія стаялі на нашым шляху, мы справімся.

Зразумела, што злосны прагульшчык, «лятун»—профэсіянал не задаволен пастановамі ўраду аб барацьбе з прагуламі і цякучасьцю.

Не адважваючыся адкрыта выступаць супроць дэкрэту, злосныя прагульшчыкі, якія падчас зьяўляюцца клясава чужым элемэнтам і дзейнічаюць паціхеньку, падкопваюцца пад новы дэкрэт «ціхай сапай».

Вось на заводзе імя Варашылава, рабочы кацельнага цэху **Фаміч**, у часе абмеркаваньня пастановы ўраду, заявіў:

— Я павінен шукаць, дзе можна больш зарабіць, у мяне пяць душ сям'і...

Спасыланьне на цяжкае матэрыяльнае становішча сям'і—звычайнае выкручваньне «лятуна». Замест таго, каб узьняць гэта пытаньне перад заводзкімі організацыямі, як гэта павінен зрабіць усякі сумленны рабочы, «лятун», нават не даводзячы аб гэтым да ведама адміністрацыі, «пералятае» на іншае прадпрыемства, захапіўшы разам з тым і харчовыя карткі. Што-ж датычыць Фаміча, дык усе рабочыя ведаюць, што ён моцна зьвязан з вёскай і ні ў чым не адчувае асабліва вострай патрэбы.

У тым-жа кацельным **цэху рабочы Хадынскі** кажа:



ДЛЯ ЗАЎВАГ

— Каму якая справа, што я прагуляў дзень?.. Гэта мне страта.

Такая «ўстановачка» таксама выкрывае ўласьніка «лісяга хвосьціка». Ці-ж прагульшчык толькі сабе прыносіць «страты»? Калі-б прагул прыносіў яму сапраўды страту, ён-бы яго не рабіў. У большасьці выпадкаў прагул робіцца для таго, каб дзе-небудзь на старане больш зарабіць, бяручы ў тры разы даражэй за які-небудзь рамонт. Сапраўдную страту церпіць соцыялістычнае прадпрыемства, якое з-за прагулаў пазбаўлена магчымасьці выканаць прамфінплян.

Некаторыя рабочыя, пад уплывам агітацыі дэзорганізатараў вытворчасьці, прабуюць аслабіць дзейнасьць новага дэкрэту, гаворачы, што дэкрэт зьяўляецца вельмі строгім.

Рабочы кацельнага цэху заводу імя Варашылава—**Хазай**—кажа:

— Пастанова вельмі строгая, асабліва калі адбіраюць харчовую картку і кватэру... Што-ж тады **яму** рабіць?..

«Яму»—гэта прагульшчыку і «лятуну». Вось аб кім клапоціцца Хазай. Трэба запытацца ў Хазая,

ДЛЯ ЗАЎВАГ

а ці-ж клапоціцца аб інтарэсах сацыялістычнага прадпрыемства прагульшчык і «лятун»?

Малады рабочы друкарні імя **Сталіна,** які жыве за горадам, загадзя пакідае сабе лазейку для прагулу.

— А што, калі я спазьнюся на цягнік, або здарыцца крушэньне і я ня прыеду? Што-ж, і тады мяне зьнімуць?

Такое-ж прыблізна пытаньне задае абмельшчык закройнага цэху фабрыкі «Кастрычнік» **Нізак:**

— Ці будзе лічыцца прагулам, калі тэмпэратуры няма, а чалавек адчувае сябе хворым, але доктар водпуску не дае?..

Кандыдат у члены партыі—рабочы той-жа фабрыкі—**Меднік** пытаецца:

— Калі за тры-чатыры гады рабочы раз прасьпіць і ня прыдзе на работу, дык яго трэба лічыць ворагам народу?

Гэта ўсё з сэрыі пытаньняў, якія зводзяцца да таго, аб чым гаварыў адзін з «лятуноў» кушнернай фабрыкі:

— Бываюць уважлівыя прычыны для няўважлівых прагулаў...

Гэтыя пытаньні сьведчаць таксама аб невыстарчальнай растлумачальнай рабоце. Трэба растлумачыць такім рабочым, што новы закон будзе ўжывацца **не мэханічна**, што калі гутарка ідзе сапраўды аб «крушэньні цягніка», дык такая прычына зьяўляецца зусім уважлівай. **Але схавацца пад шырмай усякіх пустых агаворак**—накшталт «гэта першы прагул», або «прапаў», або «доктар вінават, што ня даў бюлетэню» і г. д.—**нікому ня ўдасца!**

Некаторыя рабочыя, накшталт рабочага заводу па выпрацоўцы ланцугоў Галя, або рабочага першага агрэгату швэйнай фабрыкі «Кастрычнік» Ліфшыца, пытаюцца:

— Ну, прагульшчык—той вінават... Але чаму сям'я яго павінна цярпець?

Гэта таксама спроба аслабіць дзейснасьць новага закону, праўда іншым шляхам.

Такім рабочым трэба адказаць словамі **Ўладзімера Ільліча:**

**«Вялізарнейшая ў гісторыі чалавецтва зьмена паднявольнай працы працай на сябе ня можа адбыцца гладка бяз труднасьцяй, конфлікту,**

**бяз прымусу ў адносінах да закаранелых чужаедаў і іх прыхвастняў».**

Вось што гаворыць наконт гэтага-ж **«Правда»**:

«Капіталізм жорстка эксплёатаваў сваіх наемных рабоў. Скарачалася заработная плата, падаўжаўся рабочы дзень, расла інтэнсыўнасьць працы. Усё гэта не магло ня выхаваць у рабочых пэўных навыкаў і жаданьня урваць сабе кавалак, чым пабольш. Перамагчы гэту спадчыну, вытруціць перажыткі капіталізму ў сазнаньні людзей— справа ня лёгкая, якая патрабуе працяглай і ўпорнай работы. Толькі ў поўным комуністычным грамадстве, калі праца стане першай патрэбнасьцю жыцьця, адпадзе неабходнасьць **экономічных** мэтодаў узьдзеяньня для павышэньня прадукцыйнасьці працы. Ва ўмовах пераходнага пэрыоду, калі мы вядзем барацьбу за пабудову соцыялістычнага грамадства, забесьпячэньне дысцыпліны працы патрабуе ўмелага спалучэньня масава-выхаваўчай і растлумачальнай работы з мэтодамі экономічнага прымусу «**так, каб лёзунг дыктатуры пролетарыяту не апаганьваўся практыкай кі-**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

селяпадобнага стану пролетарскай улады» (Ленін).

Адначасова, на радзе сходаў чуюцца галасы наконт палепшаньня матэрыяльна-бытавога абслугоўваньня рабочых. Работніца аддзелачнага цэху шчотачнай фабрыкі імя Крупскай—Баярская гаворыць:

— Пастанова добрая, мы будзем рашуча змагацца з прагульшчыкамі, узмоцнім працдысцыпліну, ліквідуем прарыў. Разам з тым, пытаньні снабжэньня трэба ўзьняць на прынцыповую вышыню. Трэба, палепшыўшы снабжэньне, канчаткова выбіць усякую глебу з-пад ног прагульшчыкаў і «лятуноў».

Такая пастаноўка пытаньня зусім правільная. Дрэнна пастаўленае снабжэньне, грамадзкае харчаваньне—адна з прычын цякучасьці і прагулаў, хоць гэта прычына ня можа і не павінна служыць апраўданьнем для прагульшчыка і «лятуна». Сумленны, адданы рабочы будзе ўсімі сіламі, разам з усім колектывам, змагацца за палепшаньне рабочага снабжэньня, але не дэзэртуе са свайго паста.

Таму трэба ўдарыць па такіх, напрыклад, настроях, якія прасьліз-

нулі ў выступленьні аднаго рабочага шпалернай фабрыкі ў Менску, што быццам-бы дрэнны абед дае падставу пакінуць завод. Такая ўстаноўка зьяўляецца чужой для перадавіка—ударніка, сумленнага рабочага Савецкай краіны.

Трэба шырока распаўсюдзіць вопыт работы перадавога прадпрыемства — чырвонасьцяжнай гарбарні **«Бальшавік»**, якая, пачынаючы з 1929 году, ня ведае прарываў у выкананьні прамфінпляну. Як дабіўся завод такіх посьпехаў? Правільная перабудова партыйнай і прафсаюзнай работы, умелае спалучэньне палітыка-выхаваўчай работы з цьвёрдым бальшавіцкім кіраўніцтвам, бязьлітаснай барацьбой з дэзарганізатарамі вытворчасьці — вось шлях да перамогі.

За 10 месяцаў на заводзе «Бальшавік» мела месца 105 прагулаў. У параўнаньні з іншымі, такімі-ж па колькасьці рабочых прадпрыемствамі, гэта невялікая лічба. Але ўдарнікі «Бальшавіка» правільна лічаць, што **на соцыялістычным прадпрыемстве не павінна быць ні аднаго прагулу.**

ДЛЯ ЗАЎВАГ

У якасьці аднаго з мэтодаў барацьбы з цякучасьцю, кіруючыя організацыі заводу «Бальшавік» праводзяць даўно вядомую, але і забытую большасьцю прадпрыемстваў, **самаконтрактацыю рабочых. Амаль 90 проц. рабочых заводу далі** да Кастрычніцкіх сьвят урачыстае самаабавязацельства **не пакідаць заводу да канца другой пяцігодкі.** Вось прыклад, варты ўсямернага перайманьня!

Ганьба дэзорганізатарам соцыялістычнага будаўніцтва—«лятунам», рвачам і прагульшчыкам! Няхай жыве пролетарская дысцыпліна ў прамысловасьці, на транспарце, у сельскай гаспадарцы!

Прагульшчык дэзорганізуе вытворчасьць, зьніжае выпуск продукцыі і матэрыяльны дабрабыт працоўных, б'е па заработку сваіх таварышоў па брыгадзе і цэху. **Прагонім прагульшчыкаў з соцыялістычных прадпрыемстваў!**

«Лятуны» спэкулююць харчовымі карткамі, грабяць фонды рабочага снабжэньня. **Пазбавім «лятуноў» і прагульшчыкаў харчовых картак!**

«Лятуны» і прагульшчыкі, дэзорганізатары вытворчасьці, займаюць

каштоўную жыльлёвую плошчу ў заводзкіх дамох і інтэрнатах. **Высялім дэзарганізатараў з заводзкіх дамоў, дамо жыльлёвую плошчу сапраўдным ударнікам!**

Узмоцнім соцыялістычныя адносіны да працы! Выканаем і перавыканаем прамфінплян чацьвертага заключнага году пяцігодкі! Узмоцнім базу разгортваньня другой пяцігодкі — пяцігодкі стварэньня бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва!

## ДЛЯ ЗАЎВАГ

